Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЕТЭНЬ

## ЦП Беларусі саюза рабочых МТС Поўдня-Цэнтра

### АРТЫКУЛЫ СТАХАНАЎЦАЎ І ЎДАРНІКАЎ МТС ПА АБМЕНУ ВОПЫТАМ РАБОТЫ

„...І калі мы за параўнаўча кароткія тэрміны дабіліся таго, што з учарайшых сялянскіх сыноў і дачок выпрацавалі выдатных камбайнераў і камбайнерак, якія перакрываюць нормы капіталістычных краін, то гэта значыць, што ў нас справа вырошчвання тэхнічных кадраў ідзе наперад сямімільнымі крокамі.

..Галоўнае цяпер у тым, каб налегчы на кадры, абучыць кадры, дапамагчы адстаючым асвоіць тэхніку, вырошчваць з дня ў дзень людзей, здольных асвоіць тэхніку і пагнаць яе наперад. У гэтым цяпер галоўнае, таварышы“.

СТАЛІН.



ООС

ВЫДАННЕ ЦП БЕЛАРУСІ САЮЗА РАБОЧЫХ МТС

МЕНСК ВЕРАСЕНЬ 1936



## СПІС ТРАКТАРЫСТАЎ МТС

**выпрацаваўшых к 15/IX-36 г. звыш 1000 га на трактар „ХТЗ“, у пераводзе на мяккую пахату**

1. ЧУБАКОЎ—Хоцімская МТС.
2. ЯЧМЕНЕЎ— „ „
3. ВАСІЛЬЕЎ—Старынская МТС.
4. ЛІПЕНЬ—Пухавіцкая МТС.

———о о———



Тав. ЛІПЕНЬ В. А. узнагароджаны граматай ЦВК БССР.

## Аб узнагароджанні трактарыстаў

**Пастанова Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР**

За працоўны гераізм і выдатныя поспехі у справе скарыстання трактараў у сельскай гаспадарцы, Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР пастанаўляе: узнагародзіць граматамі ЦВК БССР наступных трактарыстаў:

**Па Хоцімскай МТС: ЧУБАКОВА Рамана Кузьміча**,—узараўшага трактарам 1060 гектараў зямлі.

**ЯЧМЯНЁВА Дзімітрыя Абрамавіча**,—узараўшага трактарам 1020 гектараў зямлі.

**Па Старынскай МТС Сіроцінскага раёна: ВАСІЛЬЕВА Пётра Нікіфаравіча**,— узараўшага трактарам 1000 гектараў зямлі.

**Па Пухавіцкай МТС: ЛІПЕНЯ Валенціна Фаміча**,—узараўшага трактарам 1017 гектараў.

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*А. ЧАРВЯКОЎ.*

*Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*М. ЛЯЎКОЎ.*

———о о———

## СПІС ТРАКТАРЫСТАЎ МТС

**выпрацаваўшых к 1/X-36 г. звыш 1000 га на трактар**

1. ГАНЧАРЫК—Смалявіцкая МТС
2. АВЕРЪЯНАЎ—Буда-Кашалёўская МТС
3. ЗУБАРАЎ—Цярахоўская МТС
4. АНТОШЧАНКА— „ „

Адказны рэдактар *А. Бягун.*
Тэхрэдактар *Н. Пітаршчук.* Карэктар *Е. Бруевіч.*

Менгарліт № 1779. Тыраж 1000—з. 1121. Друкарня ВКСГШБ



## Аб арганізацыі абмену вопытам стаханаўцаў і ўдарнікаў

### Постанова прэзідыума ЦП Саюза рабочых МТС

„Галоўная і рашаючая ўмова забеспячэння высокага ўраджаю заключаецца цяпер у тым, каб, ламаючы супраціўленне асобных работнікаў справе моцнага ўкаранення механізацыі ва ўсе галіны сельска-гаспадарчай вытворчасці, зрабіць вопыт і дасягненні перадавых людзей соцыялістычнага земляробства, аўладаўшых машыннай тэхнікай апрацоўкі і ўборкі, здабыткам усёй масы работнікаў калгасаў, соўгасаў і МТС“ (з рэзалюцыі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) „Аб уборцы ўраджаю і сельска-гаспадарчых загатоўках“).

У публікуемых у бюлетэні матэрыялах стаханаўцы і ўдарнікі расказваюць якімі шляхамі яны дабіліся высокай выпрацоўкі на трактар, камбайн, шыроказахватную ільноцерабілку „ВНІЛ—5“, складаную малатарню і ў рэзультаце правядзення якіх агратэхнічных мерапрыемстваў забяспечылі высокі ўраджай.

За прайшоўшы год стаханаўскі рух стаў велізарнай сілай, пэратварыўшыся пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна ў масавы ўсенародны рух. Рады стаханаўцаў няўхільна растуць. Поспехі, дасягнутыя ў выкананні вытворчай праграмы бягучага года, з'яўляюцца прамым рэзультатам росту стаханаўскага руху. Але не гледзячы на велізарны рост радоў стаханаўцаў, апошнія яшчэ не сталі большасцю працуючых у МТС, МТМ.

Ударнікі, якія з'яўляюцца асноўным рэзервам для росту стаханаўскіх радоў, не карыстаюцца патрэбнай увагай з боку гаспадарчых работнікаў і профсаюзных арганізацый. За апошні час многія рабачкомы паслабілі ўвагу да арганізацыі індывідуальнага і калектыўнага соцыялістычнага

спаборніцтва, якое з'яўляецца асноўным метадам будаўніцтва соцыялізма. Вытворчыя нарады—асноўная крыніца папулярызацыі стаханаўскіх метадаў работы—у большасці МТС, МТМ склікаюцца без падрыхтоўкі, а вынасімыя імі рашэнні не правяраюцца.

Не ўсе гаспадарчыя органы ўзначалілі стаханаўскі рух і не ўсе знішчылі тэхнічныя і арганізацыйныя недахопы, якія тармазілі далейшае разгортванне стаханаўскага руху. Не ўсе яшчэ аграномы, механікі, брыгадзіры аказваюць ударнікам неабходную дапамогу ў асваенні стаханаўскіх метадаў работы. У некаторых машына-трактарных станцыях і майстэрнях не зломлена супраціўленне кансерватыўных, бюракратычных элементаў.

Прэзідыум пастанаўляе:

1. Абавязаць рабачкомы склікаць агульныя сходы рабочых, спецыялістаў, на якіх заслухаць даклады аб стане стаханаўскага руху і даклады бюро секцыі і арганізатараў па рабоце сярод ІТР аб удзеле інжынерна-тэхнічных работнікаў (аграномаў, механікаў і т. д.) у разгортванні стаханаўскага руху па МТС, МТМ і калгасах.

2. Рабачкомы абавязаны адчытацца перад членамі прафсаюза аб сваёй рабоце па садзейнасці ў развіцці стаханаўскага руху, па аказанню дапамогі ўдарнікам стаць стаханаўцамі. Таксама адчытацца аб праведзеных мерапрыемствах па аказанню дапамогі стаханаўцам у павышэнні сваіх тэхнічных і агульнаадукацыйных ведаў.

3. Прэзідыум ЦП саюза раіць усім рабачкомам у мэтах абмену і перанясення вопыту лепшых узораў работы стаханаўцаў, публікуемыя артыкулы абмеркаваць сярод шырокай масы членаў саюза.

Прэзідыум ЦП заклікае кожны рабачком абагуліць наяўны вопыт стаханаўцаў і ўдарнікаў у сваёй МТС, МТМ, каб лепшыя ўзоры работы зрабіць здабыткам мас.

**Старшыня ЦП Саюза рабочых МТС КОЛІК.**

27 жніўня 1936 г.
г. Менск.

# Буду змагацца за новыя перамогі

Вось ужо год з таго часу, як шахцёр Алексей Стаханаў геравічным ударам адбойнага малатка палажыў пачатак вялікаму руху, які ўвайшоў у гісторыю нашага соцыялістычнага будаўніцтва як адна з самых слаўных яе старонак. Гэта іскра, кінутая Алексеем Стаханавым, глыбока залегла мне ў сэрца, і думка аб тым, як мне стаць стаханаўцам, мяне не пакідала. Мною кіравала адна думка—ва што-б там ні стала дабіцца высокага, ганаровага звання стаханаўца.

Я ўзяў абавязацельства выпрацаваць на трактары 1000 га, замест нормы ў 400 гектараў. І вось зараз прышла пара падвесці першыя вынікі маёй работы, расказаць, як я выконваю ўзятыя на сябе абавязацельствы.

Мой трактар на 15 жніўня выпрацаваў 800 гектараў. Уся работа прынята калгасамі з ацэнкай на „выдатна" і „добра". Зэканоміў гаручага 1099 кілограмаў. Я асабіста зарабіў грашыма 1414 рублёў, 1296 кілограмаў хлеба і 2580 кілограмаў бульбы.

Як я працаваў, якімі метадамі я дабіўся, аб гэтым каротка раскажу.

Зразумела, што ў маёй рабоце і рабоце майго напарніка ніякага цуда няма. Вырашаюць поспех у нашай рабоце наступныя моманты.

Дакладнае выкананне графіка тэхнічнага догляду трактара і прычэпа. У выніку—мой трактар па сканчэнні сельска-гаспадарчых работ будзе прыведзен у парк МТС не патрабуючым капітальнага рамонту.

Правільная арганізацыя працы ў дасягненні высокай выпрацоўкі—галоўнае. Таму я заўсёды ўчасткі для работы падбіраў за два-тры дні раней прыезду на гэты ўчастак. Для апрацоўкі я планаваў даўжыню і шырыню рабочага загона так, каб максімальна скараціць лішнія заезды на паваротах.

Працую як правіла, на нармальных абаротах каленчатага вала і на 2-й хуткасці, трэцюю хуткасць прымяняў толькі пры пасеве трактарнай сеялкай.

Для павелічэння прадукцыйнасці трактара на ворыве я зрабіў да трохкорпуснага плуга яшчэ адзін прычэп—конны 2-лямешны плуг з шырынёю захвату 0,5 метра.

Сістэматычная работа над павышэннем сваёй кваліфікацыі сказвалася на маёй рабоце. Я за вяснова-летні перыяд вывучыў па падручніку тэорыю трактара; у рэзультаце—асвоіў трактар тэарэтычна і практычна. Але гэтым не задавальняюся. Прадаўжаю вучобу.

Вялікую дапамогу ў рабоце мне аказалі і аказваюць дырэктар МТС т. Басалыга, парторг Балабуткін, брыгадзір брыгады т. Салодкі і старшыня рабачкома т. Буцько. Яны забяспечылі на працягу ўсяго часу бесперабойную падвозку да майго месца работы гаручага, добрае харчаванне, забяспечылі бібліятэчкай мастацкай і тэхнічнай літаратуры.

Радасна і весела жыць у нашай цудоўнай краіне. За гэтае шчаслівае жыццё я абавязан вялікаму правадыру народаў таварышу Сталіну. Я глыбока быў абураны, калі даведаўся, што гэтая подлая банда забойцаў, фашысцкія агенты, злейшыя ворагі рэволюцыі—Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і астатнія шалёныя сабакі рыхтавалі забойства нашага вялікага Сталіна і яго саратнікаў. З радасцю я сустрэў прыгавор суда аб расстрэле гэтай крывавай шайкі.

Я заяўляю, што мы ўдзесяцярым сваю пільнасць, мацней згуртуемся вакол любімага правадыра тав. Сталіна, вакол нашай комуністычнай партыіі ўдзесяцярым нашу энергію для дасягнення новых, яшчэ да гэтага нябачных, перамог.

**ГАНЧАРЫК, трактарыст Смалявіцкай МТС.**

## Як я асвойваю камбайн

На Паўночным камбайне і наогул на камбайне я працую першы год. Але я вывучыў вопыт работы перадавых камбайнераў СССР, і гэта мне дапамагло не толькі выканаць норму, але і перавыканаць. Я выпрацаваў на камбайн 256 гектараў замест нормы 80 гектараў, што складае 320 проц. Зарабіў 1250 р. грашыма і 25 пудоў хлеба. Мой памочнік зарабіў 750 руб. грашыма і трактарыст—875 руб.

Поспех высокай выпрацоўкі тлумачыцца прымяненнем наступных метадаў работы.

— Я падабраў сабе добрага памочніка, т. Еўсейчык Ганну, якая добра ведала камбайн і адчувальна мне дапамагала. У часе ўборкі мы вывучалі камбайн не толькі практычна, але і тэарэтычна.

Да пачатку работы мы добра падрыхтоўвалі рабочае месца. Так, да пачатку ўборкі я аглядаў поле, падбіраў участкі камбайнавай уборкі, вывучаў рэльеф мясцовасці, густату хлябоў і ступень іх засмечанасці. У выніку—мінімальная плошча камбайнавай уборкі была па жыце і пшаніцы 40—60 гектараў, аўса—130 гектараў.

Падабраўшы плошчу для работы, даў указанні, дзе і як патрэбна абкасіць, і адразу-ж спланаваў ход камбайна па плугу даўжынёй звыш 3 кілометраў. Дзякуючы гэтаму, прыехаўшы на поле, я адразу-ж прыступаў да работы і не затрачваў час на вывучэнне плошчы.

Раніцой да пачатку работы камбайнам пераглядаў літаральна ўсе не толькі першаступенныя, але і самыя дробязныя дэталі машыны, знішчаючы недахопы, пасля рабіў запраўку камбайна. У часе работы праз кожныя дзве гадзіны камбайн спыняў на 6—8 мінут для агляду і змазкі.

Працуючы на Паўночным камбайне ў часе расы прыходзілася перабудоўваць работу так, каб вільготная салома не забівалася барабанам. Каб прадухіліць гэта я працаваў

раніцой з няпоўным захватам хедэра, а напалову або $^{3}/_{4}$. Апрача гэтага, запраўку камбайна пераносіў на раніцу, вечарам працую да змяркання.

Ушчыльніў рабочы дзень, што відаць з даных фотаздымкаў майго рабочага працэсу: чыстая работа—75 проц., тэхнічны дагляд і запраўка ў часе работы—10 проц., спыненне камбайна з-за намотвання саломы на валік палявога кола, забіванне барабана і т. д.—9 проц., спыненні па оргпрычынах—4 проц. і абед—2 проц.

Праўда, спачатку работа ішла дрэнна: часта ламалася вілка, буксы карданнага вала. Рамонтная перасоўка МТС амаль не абслугоўвала.

У знішчэнні гэтых недахопаў мне значна дапамагалі сакратар акругкома КП(б) тав. Каменштэйн і сакратар РК КП(б)Б т. Баярчанка.

За добрую работу мяне прэміравала праўленне калгаса грашовай прэміяй у суме 150 руб.

Кіраўніцтва МТС, партарганізацыя і рабачком мне аказалі вялікую дапамогу—стварылі добрыя бытавыя ўмовы.

У 1937 г. абавязваюся даць на свой камбайн не менш 300 гектараў.

**Камбайнер Старобінскай МТС ЛАЙКО.**

# Наша работа на малацьбе

Да выезду ў поле мы добра прапрацавалі і ўсвоілі рашэнне чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б „Аб уборцы ўраджаю і сельска-гаспадарчых загатоўках“, прамову таварыша Сталіна на нарадзе перадавых камбайнераў і камбайнерак СССР і праект новай Канстытуцыі. Гэта натхніла нас на барацьбу за высокую стаханаўскую прадукцыйнасць. Мы далі слова на кожнай малатарні „МК—1100“ намалаціць не менш 1500 тон. Гэтае абавязацельства мы афармілі паміж сабой соцыялістычным дагаворам і разгарнулі паміж сабой соцыялістычнае спаборніцтва.

Як мы выконвалі свае абавязацельствы, як працавалі? Вось аб гэтым мы коратка раскажам.

Па-першае. Мы добра адрамантавалі нашы машыны. Па прыездзе ў калгасы „Ясная раніца“ і „Трэці рашаючы“ мы на праўленнях калгасаў сумесна з калгасным актывам дэтальна прапрацавалі план малацьбы, арганізавалі па дзве брыгады на кожную малатарню з тым, каб забяспечыць 20-гадзінную работу ў суткі кожнай малатарні.

Для падвозкі гаручага і змазачнага замацавалі пастаянных людзей і коней, якія нам забяспечылі бесперабойную падвозку гаручага.

Кожную змену і ў працэсе работы праз кожныя дзве гадзіны мы спынялі малацьбу, добра правяралі ўсе ўчасткі машыны, дасканала выконваючы графік догляду машыны. Працавалі на нармальных абаротах барабана ўвесь час.

Устаноўка і рэгулёўка малатарні ў нас прадаўжаліся не больш 25—30 мінут.

Заўсёды мы выбіраем час і для вучобы. Мы павышаем сваю кваліфікацыю, авалодваем машынай не толькі практычна, але і тэарэтычна. За 20 дзён работы на малацьбе мы намалацілі: Чарнушэвіч 490 тон—24,5 тоны ў дзень; за гэты час зарабіў 635 руб. грашыма і 39 кгр. хлеба. Дубоўскі намалаціў 438 тон—21,9 тоны ў дзень; зарабіў грашыма 568 рублёў і хлеба 32 кгр.

Зараз—разгар малацьбы. Узятыя абавязацельствы мы выканаем.

**Машыністы малатарань „МК—1100“ Старобінскай МТС**
**Чарнушэвіч, Дубоўскі.**

# Мой вопыт барацьбы за 7—8 мільярдаў пудоў хлеба

У адказ на прамову любімага правадыра народаў таварыша Сталіна аб павелічэнні ўраджайнасці за бліжэйшыя тры-чатыры гады да 7—8 мільярдаў пудоў хлеба, я ўзяў абавязацельства арганізаваць у калгасе „Прамень Комуны" стаханаўскія звенні высокага ўраджаю. Усяго я выдзеліў 4 участкі з агульнай плошчай 14,2 гектара. На гэтых ўчастках правёў наступную работу.



Плошча пад авёс, 7,7 гектара, у жніўні 1935 г. зазяблена, увесну пракультывавана ў два сляды і прабаранавана ў два сляды; унесена ўгнаенняў: суперфасфату 2,5 цэнтнера на гектар, хлорыстага калія 0,8 цэнтнера. Сяўба зроблена ранняя радавой сеялкай, з нормай высеву 1,95 цэнтнера на гектар, насенне аўса А 315 працэнтам усхожасці 93, чыстага—99,6 проц.; пратручан поўсухім спосабам. Па ўсходах зроблена падкормка сульфій-амоніем—0,5 цэнтнера на гектар, а пасля падкормкі праведзена баранаванне ўпоперак радкоў пасеву. У выніку правядзення гэтых мерапрыемстваў атрыман ураджай 35,1 цэнтнера з гектара на на адным участку і 27,5 цэнтнера—на другім.

На ўчастку азімага жыта (3 гектара), увесну праведзена падкормка каліййымі і азоцістымі ўгнаеннямі з разліку 0,8 цэнтнера на гектар, а пасля падкормкі праведзена баранаванне; улетку праведзена праполка. У выніку ўраджай— 29,1 цэнтнера з гектара.

Ячмень—на ўчастку 3,5 га. Праведзена наступная апрацоўка: увосень узарана пад зябліва. Ранняй вясной пра баранавана, унесена ўгнаенне—гною 10 тон на гектар, хлорыстага калія 0,74 цэнт. на гектар. Сяўба праведзена радковай сеялкай. Норма высеву—1,8 цэнтнера. Насенне ячменю „вятка" чыстага 90 проц., усхожасць—96 проц. Насенне пратручана поўсухім спосабам, фармалінам; у рэзультаце атрыман ураджай 26,2 цэнтнера з гектара.

У цэлым па гэтаму калгасу атрыман сярэдні ўраджай пшаніцы 30 цэнтнераў з гектара, жыта—25,2 цэнтнера.

**Аграном Слуцкай МТС КАЦ.**

---

„Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна тварыць цуды"

(Сталін).

## Як я выконваю ўзятае на ўсебеларускай нарадзе абавязацельства даць 1200 гектараў на „ХТЗ"

На 25 жніўня гэтага года мой трактар выпрацаваў 771 гектар. У некаторыя дні я выпрацоўваў па 10—11 гектараў, а 14 мая даў 21 гектар за змену. Зарабіў я 1177 рублёў, 1413 кілограмаў хлеба, 2355 кілограмаў бульбы. Апрача таго, я зэканоміў гаручага 1390 кілограмаў, за што мне прылічваецца 364 руб.

Высокай прадукцыйнасці і добрага заработку я дабіўся ў рэзультаце прымянення наступных метадаў работы.

Загадзя падбіраў участкі для работы, размер рабочых загонаў, дзякуючы чаму ў час работы не рабіў лішніх паваротаў і не пакідаў клінняў. Прыглядаючы за работай, я заўважыў, што мой трактар „ХТЗ" пры рабоце з трохлямешным плугам не мае на круку дастатковай нагрузкі. Рашыў зрабіць невялікае прыстасаванне. На раму плуга прымацаваў цапамі абцёсаны моцны брус. Да гэтага бруса прымацаваў 2 конныя плугі—адзін плуг на некаторай адлегласці ад апошняга трактарнага плуга, а другі на некаторай адлегласці ад першага коннага плуга. Плугі да бру-

са прымацаваў таксама цапамі так што кіраваць было лёгка. Пры рабоце з гэтымі плугамі ішлі 2 калгаснікі. Прынцып работы на гэтых плугах такі-ж, як і пры коннай запражцы.



Раніцой, перад тым як сесці на трактар, сачыў за тым, каб на поле былі дастаўлены вада і гаручае. Гэта дае мне магчымасць запраўку зрабіць за 2—3 мінуты.

Працаваў я ўвесь час на другой хуткасці. Трактар меў поўную нагрузку. Па праўдзе кажучы, я баяўся, што конныя плугі будуць рабіць агрэхі і не дадуць належнага вывароту пласта. Аднак, праверкай аграномы ўстанавілі, што работа ідзе добраякасна.

Трактарам я аўладаў не толькі практычна, але і тэарэтычна. Павінен адзначыць, што дырэктар МТС т. Ганчарэнка і старшы механік т. Чыманскі стварылі мне ўсе ўмовы для бесперабойнай работы (плошчы дастаткова, гаручае падвозіцца своечасова і т. д.).

Вялікую дапамогу мне аказалі парторг т. Гутнер і старшыня рабачкома т. Бушмінкін. Яны правялі не толькі са мною, але з усімі трактарыстамі, вялікую масава-палітычную работу; забяспечылі нас тэхнічнай і мастацкай літаратурай, стварылі добрыя бытавыя ўмовы (харчаванне, аптэчкі і т. д.).

**Трактарыст Буда-Кашалёўскай МТС АВЯР'ЯНАЎ Ф.**

# 134 га не з'яўляюцца гранню

Прада мною ўстала пытанне: няўжо я не магу даць на ільноцерабілку 100 гектараў, як гэта абяцалі лепшыя ільноцерабільнікі таварышу Сталіну на нарадзе перадавікоў па ільну? Я цвёрда рашыў даць 100 гектараў на ільноцерабілку.

У першыя дні я распачаў церабленне ільну ў калгасе „Рассвет". Трэба сказаць, што мяне сустрэлі з некаторым нездаваленнем. Былі і такія калгаснікі, якія зусім не верылі, што машынай можна браць лён. Каля ільноцерабілкі сабралася многа калгаснікаў. Кожнага цікавіла,—няўжо гэта і на самой справе машынай можна церабіць лён.

Я даказаў сваё. Машына пашла поўным ходам. Чыста і акуратна брала і роўным радком слала лён. Здзівіліся калгаснікі. За першыя два дні я выцерабіў 22 гектары. Больш ільну ў калгасе не было, і мне прышлося пераехаць у другі калгас. Пераезды рабіў толькі ноччу. Днём увесь час скарыстоўвалі машыну на церабленне. У часе пераездаў рабіў бягучы рамонт, правяраў часткі і рамні, змазваў машыну. Я імкнуўся ўшчыльніць рабочы час і зжыць прастоі. Гэта мне дало магчымасць амаль у тры разы перавыконваць норму. За ўвесь сезон выцерабіў 134 гектары ільну—больш, чым астатнія ільноцерабільнікі нашай і Горацкай МТС. Але гэта ні ў якім разе не з'яўляецца гранню. Я ўзяў на сябе абавязацельства—ў 1937 г. даць на ільноцерабілку не менш 200 гектараў.

**Ільноцерабільнік Ліхачоўскай МТС ГАРБУЛЁЎ.**

## Вывучэнне стаханаўскіх метадаў работы дало магчымасць выканаць соцабавязацельства

Я—трактарыст першай катэгорыі. Працую з 1933 года. У 1935 г. выпрацаваў 656 гектараў на трактар, зэканоміў гаручага 1400 кілограмаў. У гэтым стаханаўскім годзе ўзяў абавязацельства даць 1200 гектараў. Да сучаснага моманту (22 жніўня) выпрацаваў разам з напарнікам т. Шклярэвічам 886 гектараў. Зарабіў за гэты час грашыма 1742 руб. і натурай—1767 кілограмаў хлеба.

Гэтага я дабіўся дзякуючы веданню машыны, якую добра даглядаю. Мая машына ніколі не спынялася, за выключэннем запраўкі і ачысткі.

Перш чым прыступіць да работы я дэтальна аглядаю плошчу і загадзя вызначаю, што трэба рабіць—араць ці іншую работу праводзіць. Пры ворыве рэгулюю машыну ў залежнасці ад глебы. Сачу за ходам плугоў і своечасова іх рэгулюю. Сачу таксама за тым, каб матэрыял для запраўкі трактара заўсёды быў каля трактара на полі (газа, масла, вада) і своечасова ўтвараю падцяжкі падшыпнікам і калі патрабуецца—дробны рамонт. Уся мая ўвага сканцэнтравана на тым, каб не было ні аднай мінуты прастою, а таксама халастых пераходаў.

У мяне не было ні аднаго выпадку аварыі. Неабходныя запасныя часткі да трактара дастаўляе своечасова раз'язная майстэрня і аказвае дапамогу ў рамонце на полі. Недахоп мой гэта тое, што яшчэ не дабіўся ад калгаса сталага плугавіка. Усю работу здаў на „выдатна" і „добра". Узятыя абавязацельствы—1200 гектараў—я выканаю і перавыканаю.

**Трактарыст Старобінскай МТС АЛАДКА П.**

## Жанчыны-трактарысткі не адстаюць ад мужчын

Па сканчэнні курсаў трактарыстаў пры Багушэўскай МТС у 1936 г. я атрымала трактар і працую ў жаночым трактарным атрадзе. Спачатку было неяк страшна. Потым палюбіла свой трактар і асвоіла. Сустракаліся некаторыя цяжкасці ў рабоце. Усё-ж аказалася ў радах перадавых трактарыстаў. За веснавую работу дырэкцыя МТС прэміравала мяне. На 20 жніўня г. г. гадавы план трактарных работ выканала на 85 проц.

Якія-ж метады маёй работы? У першую чаргу за сваім трактарам выключна добра сачу і даглядаю яго (своечасовая ачыстка, змазка і т. д.). За ўвесь час работы не выплавіўся ні адзін падшыпнік. Не ведае мой трактар ніякіх аварый.

Адначасова з работай на трактары я многа паспела ў павышэнні сваіх ведаў, асваенні тэхнікі як на практычнай рабоце, так і шляхам прапрацоўкі асобных пытанняў у гуртку пры трактарнай брыгадзе. Маім поспехам у рабоце яшчэ многа спрыяла тое, што брыгадзір нашай брыгады т. Рэброў дапамагаў мне, асабліва першы час, калі яшчэ мала была я знаёма з работай.

Я ўключылася ў абвешчаны ЦК партыі стаханаўскі дэкаднік. Узяла абавязацельства даваць на сваёй машыне не менш 10 гектараў, эканоміць на кожным гектары па 2 кілограмы гаручага і даваць высокую якасць работы. Са сваёй напарніцай т. Трусовай я выклікала на спаборніцтва ордэнаносца т. Прахарэнку Нікалая.

**Трактарыстка жаночай трактарнай брыгады
Багушэўскай МТС ШЧАМЯЛЁВА.**

## Як спецыялісты Шклоўскай МТС выконваюць соцдагаворныя абавязацельствы па павышэнню ўраджаю ільноваланна

Прапрацаваўшы рашэнне нарады перадавікоў ільнаводаў, спецыялісты МТС узялі на сябе рад абавязацельстваў. У прыватнасці, я ўзяўся забяспечыць разам з перадавымі калгаснымі звеннямі і ордэнаноскай Гаварковай ураджай ільновалакна ў 10—12 цэнтнераў у калгасах: „Перамога", Александрыйскага сельсовета—звяно ордэнаноскі Гаварковай (з 5 гектараў па 10—12 цэнтнераў ільновалакна); імя Леніна, Рыжкоўскага сельсовета,—звяно т. Кашо (з 2 гектараў па 10 цэнтнераў); „Усход", Рыжкоўскага сельсовета,—звяно таварыша Падгорнай (з 4 гектараў па 6 цэнтнераў); „Чырвоная ніва", Рыжкоўскага сельсовета, — звяно т. Ільюшчанка (з 5 гектараў па 6 цэнтнераў); у гэтым-жа калгасе звяно Колачэва—з 5 гектараў па 7 цэнтнераў ільновалакна. У астатніх звеннях праводзяць работу заг. хімлабараторыі Крывенкава і ўчастковы аграном Дубоўскі.



Як-жа мы забяспечылі атрыманне высокага ўраджаю?

Яшчэ вясною ў кожным стаханаўскім звяне мы дасканала агледзелі палі, выбралі лепшыя папярэднікі і, як правіла, узялі канюшынішча, узаранае на зіму, за выключэннем двух звенняў, дзе папярэднікам было бульбянішча. Па рэльефу мясцовасці ўсе ўчасткі прадстаўляюць раўніну.

Пасля выбару ўчасткаў сумесна а аграхімлабараторыяй мы зрабілі аналіз глебы кожнага ўчастка, каб даведацца, колькі ў глебе пажыўных вяшчэстваў і якія ўгнаенні ў якіх дозах уносіць на кожны ўчастак. Затым для кожнага звяна склалі агратэхнічны план. Лён высявалі таварна-гатунковы (гатунак 823/3) з гаспадарчай годнасцю семя 98 проц.

Усё семя пратручвалі парашком Давыдава. Норму высеву ўстанавілі ў 150 кілограмаў на гектар. Высявалі радковымі сеялкамі крыжавым пасевам на глыбіні задзелкі насення ў $1^1/_2$—2 сант. Гэта забяспечыла дружныя ўсходы ільну; прычым пасеў усіх участкаў быў праведзен у раннія тэрміны (пачалі сеяць 25 красавіка, а скончылі 27 красавіка).

Апрацоўка глебы праведзена добра. Фасфарытныя ўгнаенні ўносіліся пад плуг, калійныя і азотныя—пад пружынныя бароны, апрача таго, азоцістыя ўгнаенні ў выглядзе аміячнай селітры даваліся на падкормку ў два прыёмы—першы раз уносілі калі лён вырас да 10 сант. вышыні—40 кгр. на гектар і другі раз—перад бутанізацыяй, таксама з разліку 40 кілограмаў на гектар. Таксама рабілася падкормка курыным памётам і гноевай жыжай.

Дасканала была праведзена праполка ільну. Прапалвалі па два разы, а месцамі і па тры. Палолі на 12-ты дзень пасля ўсходаў, калі расліны дасягнулі 12 сант. вышыні. Палолі супроць ветру, асцярожна, каб не прымяць нежныя ўсходы. Паўторную праполку правялі праз 7 дзён пасля першай, калі расліны дасягнулі 30—40 сант. вышыні.

Дзякуючы прымяненню агратэхнічных мерапрыемстваў, мы дабіліся таго, што лён на стаханаўскіх звеннях дасягнуў росту ў 110—120 сант. Засушлівае надвор,е не пашкодзіла росту, наадварот—моцнае развіццё расліны патрабавала ад нас на 2 участках правесці апярэнне калочкамі і шпагатам, для таго каб прадухіліць паляганне.

Цerabленне пачалі ў ранняй жоўтай спеласці. Скончылі 17 ліпеня. Пры церабленні лён падсартоўваўся па даўжыні сцябла і добра ачышчаўся ад пустазелля. Вычераблены лён падсушваўся спачатку 7—9 гадзін у розвязі, потым ставіўся для далейшай прасушкі ў конусы і праз адзін дзень вязаўся ў снапы па 10—12 сант., пасля чаго ставілі ў бабкі. Рассцілалі адначасова з малацьбой на пяты дзень пасля церабления.

Да 22 ліпеня ўвесь лён стаханаўскіх участкаў быў разасланы. Пры малацьбе яшчэ раз прасартавалі па даўжыні і таўшчыні сцябла.

Сцелішча рыхтавалі загадзя. Знішчаліся кочкі, карта-фіны, ачышчалі ад сучча і камення. Рассцілалі роўным тонкім слоем на адлегласці да 10 сант. паміж радамі. Каб







хутчэй адлежаў лён, палівалі вадой. Пробу ўзялі на 9-ты дзень. Гатовы лён адразу-ж ставілі ў канусы на 1—2 дні для прасушкі. Пасля звозілі пад навес.

Цяпер мы прыступілі да апошняй работы—пярвічнай апрацоўкі і здачы дзяржаве. Улічваючы, што лён патрабуе роўнамернай сушкі, мы пабудавалі бяздымныя сушыльні, палепшылі рыгі, апрача таго—будзем расцілаць для адлежкі трасту перад мяццем пасля сушкі 10—12 гадзін, а сырцу—перад трапаннем 24—30 гадзін, што значна палепшыць якасць проміна і трапання.

Мы забяспечылі і высокую якасць ільновалакна—не ніжэй 26 нумара. Наша задача—здаць дзяржаве з кожнага гектара не менш 10 цэнтнераў ільновалакна.

Узятыя абавязацельствы па вышэйпералічаных калгасах і звеннях мы выканалі.

Нашы клопаты аб павышэнні ўраджайнасці і палепшанні якасці ільновалакна гэтым не заканчваюцца. Ужо цяпер падбіраем участкі, каб у будучым годзе атрымаць яшчэ большы ўраджай ільну.

**Старшы агранам Шклоўскай машына-трактарнай станцыі ВАРЭНІК.**



# Як рабачком Смалявіцкай МТС арганізаваў работу па выкананню соцдагавору, заключанага ЦП Саюза з Чэрнігаўскай вобласцю

Соцдагавор яшчэ ў маі месяцы прапрацован на агульных сходах і вытворчых нарадах. Былі ўзяты канкрэтныя абавязацельствы ўсімі вытворчымі групамі МТС.

Усе трактарныя брыгады забяспечаны бібліятэкамі, шашкамі, газетамі. 85 проц. працуючых у 9 трактарных брыгадах чытаюць літаратуру з бібліятэкі МТС. Ёсць культарганізатары. Пры МТС арганізован агратэхнічны гурток для павышэння кваліфікацыі. Наведвае яго 54 чалавекі. З пачатку 1936 года гуртком праведзена 50 заняткаў.

У трох калгасах для павышэння кваліфікацыі калгаснага актыва арганізована агратэхвучоба. Гурткі агратэхвучобы наведваюць 55 чалавек. Праведзены 23 заняткі. Арганізавана работа па здачы норм на значок „ГПА", займаецца 11 чал. Уцягнута ў ячэйку Асоавіяхіма 34 чал. Арганізавана спортпляцоўка.

Фінплан па збору членскіх прафсаюзных узносаў за першае паўгоддзе выканан на 157,1 проц.

Цяпер разгарнулі вялікую работу па падрыхтоўцы да зімы. Рамантуецца 15 кватэр. У першую чаргу адрамантавалі кватэры стаханаўцам т.т. Арлоўскаму і Міклашэўскаму. Апрача гэтага будуем два двухкватэрныя дамы. Закупілі памяшканне для пабудовы клуба на 300 чал. У майстэрні праводзім рамонт печак, падлогі, сцен і ўсяго вытворчага абсталявання.

Для забеспячэння працуючых у МТС мясам пастаўлены на адкорм 24 свінні і 40 авец.

З 20 жніўня па 1 верасня г. г. МТС абвешчан вытворчы дэкаднік, у які ўключыліся ўсе працуючыя. Рэзультаты работы першых двух дзён дэкады наступныя:

Натураплаты за 20 і 21 жніўня паступіла 180 тон, а за ўвесь час з пачатку здачы да 20 жніўня паступіла 140 тон.

Трактарыст Лапаткін за змену ўзараў трохкорпусным плугам на „ХТЗ" 13 гектараў.

Машыніст Шурок на малатарні „БДО—34" намалаціў 12 тон.

**Старшыня РК БУЦЬКО.**

